# БІРЖА МОЛАДЗЕВЫХ ІНІЦЫЯТЫЎ - 2012!

**Праект «Біржа моладзевых ініцыятыў», які распачаўся на пачатку восені гэтага года з паездкі берасцейскай моладзі ў Мотыч ля Любліна, атрымаў даволі ўдалы працяг.**



Праект “Біржа грамадзянскіх моладзевых ініцыятыў – Грамадскія лідары” з’яўляецца ўжо другім супольным праектам па выкарыстанні методыкі інтэрнэт-біржы для правядзення моладзевых ініцыятыў, арганізаваным АРР “Дзедзіч” і Фундацыяй “Шчаслівае дзяцінства” (нагадваем, што першы праект адбыўся восенню мінулага году і сабраў 36 удзельнікаў з розных навучальных устаноў Берасця).

Мэтай праекта з’яўляецца атрыманне ведаў пра сучасныя методыкі правядзення грамадскіх кампаній, рэалізацыі лакальных сацыяльных акцый на карысць грамадства.



Напачатку ініцыятыўная група будучых моладзевых лідараў направілася у Польшчу, у невялікае мястэчка непадалёк ад Любліна. Акрамя добрага настрою, новых знаёмых ды цікавых уражанняў юнакі і дзяўчаты атрымалі веды пра тое, што ёсць гэтыя самыя моладзевыя ініцыятывы і як і для чаго іх рабіць.

У другой частцы удзельнікі, карыстаючыся атрыманымі ведамі, пісалі, выкладвалі на інтэрнэт-старонцы, выкупалі і рэалізоўвалі гэтыя ініцыятывы.

Хаця, канешне, адных ведаў мала.

Каб прыдумаць добрую ініцыятыву - цікавае, новае, арыгінальнае мерапрыемства - трэба яшчэ быць крэатыўным, смелым, трэба мець жаданне працаваць, жаданне развівацца. І некаторыя ўдзельнікі праекту на справе паказалі, што такімі якасцямі валодаюць.

Вось што пра праект кажа адна з удзельніц, Вольга:

*«Падчас праекту праводзілася шмат ініцыятываў як з нашага боку, так і з боку іншых груп. Часам было нялёгка сабраць людзей і зрабіць нешта, бо ва ўсіх свае справы, вучоба, інтэрнэт і іншае. Але калі ты сапраўды хочаш чагосьці, ніхто і нішто табе не перашкодзіць. І мы, удзельнікі «Біржы моладзевых ініцыятыў», ведаем гэта як ніхто.*

*Гэты праект – добрая магчымасць для самарэалізацыі, бо ты сам вырашаеш, што, дзе, калі і з кім ты хочаш рабіць. Важна тое, што цябе заўсёды падтрымліваюць. У праекце было 4 групы, і кожная з іх для перамогі павінна была быць смелай, крэатыўнай, сапраўднай камандай.*

*Мы спаборнічалі на інтэрнэт-старонцы за лепшыя ініцыятывы, перакупаючы іх адзін у аднаго. Мы рабілі ўсё, каб нашыя акцыі і мерапрыемствы былі лепшыя».*

## МОЛАДЗЕВЫЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ

Усе свае ідэі юнакі і дзяўчаты выкладалі на адмысловым сайце. Потым гэтыя ініцыятывы выкупаліся за балы і рэалізоўваліся. Прапануем вашай увазе некалькі такіх ініцыятыў.

**1. НАВУКОВАЯ ВІКТАРЫНА**

Кожнай камандзе па ланцугу задаюцца пытанні на навуковую тэму. Па выніках іх адказаў ім залічваюцца балы. Пасля ўсіх пытанняў суддзі падсумоўваюць балы. У якой каманды больш балаў, тая і перамагла. Потым суддзі ўзнагароджваюць пераможцаў.

**2. КОТ У МЯШКУ**

Вядучыя пішуць на паперы розныя пажаданні і дзеянні. Затым кладуць гэтыя паперкі ў мяшок.

Удзельнікі становяцца ў лінію, выцягваюць паперку і выконваюць тое, што там напісана. Калі хто адмаўляецца – кладуць яе назад і выцягваюць наступную. Удзельнікі гульні таксама могуць пісаць жаданні на паперы.

**3. КОЛЕРЫ**

Удзельнікі становяцца ў кола. Калі вядучы камандуе ўдзельнікам дакрануцца да якога-небудзь колеру, яны павінны як мага хутчэй узяцца за рэч з такім колерам (гэта можа быць прадмет, частка цела астатніх удзельнікаў). Хто не паспеў – выбывае з гульні і гэтак далей. Пераможа апошні.

**4. ЗААПАРК**

Пасадзіце удзельнікаў гульні ў кола тварам адзін да аднаго, на лоб ім наляпіце паперкі з назвамі якіх-небудзь звяроў. Кожны можа бачыць надпіс у іншага ўдзельніка гульні. Задача - высветліць, што напісана на тваёй паперцы.

Для гэтага іншым удзельнікам гульні задаюцца пытанні, адказваць на якія можна толькі «Так» альбо «Не».Калі атрыманы адказ «Так», гулец атрымлівае права на новае пытанне любому ўдзельніку; калі атрыманы адказ «Не», права задаць пытанне пераходзіць да суседа справа. Прайграе той, што высветліць свой надпіс пазней за астатніх.

**5. ТЭАТР ЭКСПРОМТАМ**

Паказаць маленькую тэатральную пастаноўку, у якой акцёры гуляюць экспромтам. Знайсці просты сюжэт (казка ці байка) толькі са словамі аўтара, без рэплік персанажаў.

Даць кожнаму ахвотнаму ролю і павольна зачытваць словы пастаноўкі. Акторы ж павінны зарыентавацца і згуляць сваю ролю, арыентуючыся на вашыя словы.

**6. АЛОВАК**

Каманды, у якіх чаргуюцца хлопцы і дзяўчаты, павінны перадаць ад першага да апошняга просты аловак, а перадаецца ён заціснутым паміж носам і верхняй губой гульцоў. Натуральна, што аловак чапаць рукамі нельга, а ўсё астатняе чапаць рукамі можна.

**7. КЕНГУРУ**

Выбіраецца добраахвотнік. Адзін вядучы адводзіць яго далей і тлумачыць, што ён павінен будзе адлюстроўваць кенгуру жэстамі, мімікай і да т.п., але ні выдаючы ні гуку, а ўсе астатнія павінны здагадацца, што за жывёла ён паказвае.

У гэты час другі вядучы распавядае аўдыторыі, што цяпер ахвяра будзе паказваць кенгуру, але ўсе павінны прыкідвацца, што яны не разумеюць, што ж за жывёла ім паказваецца.

Трэба называць любых іншых жывёл, але не кенгуру. Гэта павінна быць нешта тыпу: «Ой, значыць, яно скача! Так. Напэўна гэта трус. Не!? Дзіўна, ну тады гэта малпа». Калі праз 5 хвілін імітатар яшчэ не будзе кідацца на ўсіх з крыкамі: «Вы што!? Не можаце адгадаць простую жывёлу? Паказваю яшчэ раз!», то ў яго сапраўды сталёвыя нервы.



**8. ЗАПАЛКІ**

Гульня для любой колькасці ўдзельнікаў. Выбіраецця вядучы і галоўны гулец. Яму даецца ў зубы запалка, пасля вядучы паказвае на чалавека і той павінны бязгучна дастаць запалку. Галоўны гулец паінен адгадаць хто ўзяў запалку.

**9. РАЗВІТАННЕ З ВОСЕННЮ**

Сабрацца групай і схадзіць на фотасесію «Развітанне з восенню». Удзельнікі павінны быць апранутыя святочна і мець добры настрой.

**10. УСМЕШКІ**

Зрабіць фотаздымкі берасцейцаў, якія ўсміхаюцца, потым змясціць вынікі дзейнасці ў фота-калаж.

**11. ЛАНЦУГ**

Рассыпце на стале вялікую скрынку сашчэпак і пасадзіце за стол некалькі гульцоў. Задача кожнага гульца - пакуль не скончацца сашчэпкі , вырабляць з іх ланцуг. Чый ланцуг у выніку апынецца даўжэй - той і перамог.

**dzedzich.org**



# ЦІ ЧАКАЮЦЬ ТУРЫСТА

## Ў БЕЛАРУСКАЙ ГЛЫБІНЦЫ?

**Падарожжы – справа займальная і надзвычай цікавая. Прычым неабавязкова вялікабюджэтная. Калі вандроўкі за мяжу сапраўды часам патрабуюць істотных капіталаўкладанняў, то пазнанне ўласнага, беларускага сусвету абыдзецца значна танней. Вось толькі ў якой ступені самабытныя мясціны гатовыя прыняць турыста? Праверым гэта на прыкладзе аднаго з найцікавейшых мястэчак Берасцейшчыны – горада Высокае.**



Выбар горада выкліканы яго выключнай перспектыўнасцю для турызму. Па-першае, тут ёсць прыстойны спіс заўсёды цікавых падарожніку помнікаў архітэктуры і прыроды, якія захаваліся дзякуючы аддаленасці мястэчка ад магістральных шляхоў. Высокае быццам застыла на мяжы мінуўшчыны і сучаснасці, і разглядваць у ім можна ледзь не кожны дом. Ландшафт таксама фантастычны. Нездарма ж тут будаваліся магнаты, і менавіта тут напрыканцы XIX стагоддзя прайшлі ваенныя вучэнні, на якія завітаў расійскі імператар Аляксандр III з жонкай. Блізасць з Польшчай і наяўнасць у ваколіцах іншых турыстычна прывабных мясцін тыпу Воўчына і Грымячы падвойвае, калі не патройвае турыстычныя перспектывы горада. Краязнаўцы са свайго боку адзначаюць, што Высокае з'яўляецца ўнікальным пунктам, дзе доўгі час спалучаліся яўрэйская, каталіцкая і праваслаўная культуры.

### "У НАС ТУРЫСТАЎ НЯМА"

Накіроўваемся ў горад і вывучаем, наколькі ён гатовы да спаткання з турыстам. На шыі – фотаапарат, на твары – разгубленая ўсмешка. І звяртаемся да першага ж чалавека, які падае прыкметы прыветлівасці.

- Добры дзень! Мне пра ваш горад шмат расказвалі. Але не магу зарыентавацца, што тут можна пагглядзець. Можа, падкажаце?

І так разоў 6-7, пакуль канчаткова не вымалёўваецца карціна ўспрымання жыхарамі Высокага сваёй малой радзімы: "А што вы тут хочаце паглядзець? Нічога асаблівага ў нас няма. Як ва ўсіх: аўтавакзал, пошта, банк", "Помнік Леніну ў нас ёсць, дом культуры, вось там кафэ, можаце зайсці", "Не ведаю, што вам сказаць… А, дык у нас ёсць яўрэйскі помнік, нядаўна паставілі", "Можаце схадзіць у парк, калі хочаце. Што за парк? Дакладна вам не скажу, але звычайна там усе гуляюць".

Ні разу не гучыць у адказах, што тут ёсць 2 сінагогі XVI стагоддзя, Свята-крыжаўзвіжанская царква, якую наведаў расійскі цар, касцёл Святой Троіцы, кляштар братоў баніфратаў. Не кажуць нічога мясцовыя і пра шыкоўны палаца-паркавы ансамбль Сапегаў-Патоцкіх, відаць, ведаючы яго проста як вышэйназваны "парк".

Закрадаецца ўражанне, што турыстаў тут у вочы не бачылі. Яно мацуецца па меры прасоўвання па горадзе. Ніякіх указальнікаў, інфармацыйных шыльд, ніякіх карт з указаннем маршрутаў перасоўвання да жаданых аб'ектаў не знаходзім. Яны, стандартныя, ёсць толькі перад самімі помнікамі – і на тым дзякуй.

Выпадковая сустрэча на тэрыторыі рэштак палаца Сапегаў настаўнік паказвае большыя веды па турыстычных кропках Высокага, чым яго апытаныя папярэднікі. Ён расказвае, што турысты сюды ўсё ж прыязджаюць, але выключна арганізавана, на аўтобусах і з экскурсаводам.

### ЭКЗОТЫКА БЕЗ МАКІЯЖУ

Раз трапілі ў горад, паглядзім, у якім стане знаходзяцца турыстычныя аб'екты. Гатовыя яны паўстаць перад вокам масавага падарожніка, ці на іх нават дыхаць страшна. Высокае ў гэтым плане неадначначнае. Калі культавыя помнікі не выклікаюць асаблівай занепакоенасці, то ля астатніх будынкаў проста хочацца плакаць. Дзівоснай прыгажосці ўязная брама, што засталася ад Сапегавага замка, выглядае вельмі рамантычна ў сваёй закінутасці, але наўрад ці адсутнасць граматнай кансервацыі працягвае ёй жыццё. Пра гэта сведчыць усё той жа настаўнік: "Ад брамы штогод застаецца ўсё менш. Цэгла развальваецца, дзеці зверху поўзаюць. Перад навучальным годам камунальшчыкі трохі дрэвы на ёй павысякалі, а то ж яна за год яшчэ і зарастае".

Гэтак жа няўзброеным вокам відаць, што больш новы палац Патоцкіх таксама перажывае не лепшыя часы. Галоўны будынак яшчэ ладна, а вось у памяшканні былога кінатэатра праз дах можна глядзець на сонца ці на зоры. Што тут быў кінатэатр, мы даведваемся ад яшчэ адной настаўніцы. Педагогі тут часта сустракаюцца не зусім выпадкова – ансамбль на момант нашай вандроўкі знаходзіцца на балансе школы-інтэрната.

Зусім у цяжкім становішчы знаходзіцца былы кляштар баніфратаў, задзейнічаны, здаецца, пад склады. А на першую сінагогу і ўвогуле глядзім так, быццам бачым першы і апошні раз. Гэта яшчэ трэба ўмудрыцца давесці да такога стану будынак са сценамі паўметровай таўшчыні.

Другая сінагога, на 50 год маладзейшая за першую, у больш выгодным стане. Яе купіў мясцовы прадпрымальнік і пацiху перарабляе яе ў рэстаран і гасцініцу, за што ў свой час жорстка крытыкаваўся грамадскасцю. Васіль Марынчук праводзіць нас унутр і паказвае, што ён ужо зрабіў і што толькі збіраецца. Магчыма, на гэта паўплывала своечасовае ўмяшальніцтва краязнаўцаў, але гістарычны будынак не выглядае пакалечаным. Адзінае, што выклікае пытанне, – дабудова другога паверха. Але так ці інакш сінагога атрымала другое нараджэнне. І яе папярэдніца мусіць ёй зайздросціць.

Калі Высокае прырасце на новы рэстаран, Марынчук і сам не ведае: "Калі б сюды паехалі турысты, я б хутка закончыў. А так няма асаблівага сэнсу спяшацца".

### НАЧЛЕГ

Калі ехаць у Высокае з Брэста, можна не задумвацца, ці ёсць дзе ў гарадку пераначаваць. Калі ж на падарожжа адважыцца больш далёкі турыст, то для яго інфармацыя падобнага роду можа быць вызначальнай.

Адзіная ў горадзе гасцініца зачынена на рамонт, пакоі пасуткава здае толькі ўжо знаёмы нам прадпрымальнік Васіль Марынчук. Праўда, яго апартаменты не выглядаюць на бюджэтныя, ды ён і сам прызнаецца, што жывуць тут пераважна камандзіровачныя людзі: "За тра гады ніводнага турыста я ў горадзе не бачыў. Можа, яны і заязджаюць, але ненадоўга, інакш бы прыйшлі да мяне. Тут больш ніхто не здае жыллё".

Марынчук выказваецца наконт агульнай палітыкі мэрыі да турызму: "Не патрэбныя ім турысты. Інакш як патлумачыць, што з-пад маёй гасцініцы ніяк не могуць прыбраць грамадскі туалет? Я нават напісаў заяву, каб перанеслі яго за мой кошт. І ўсё роўна нічога. Перад людзьмі сорамна – хоць ты вокны не адчыняй". Прадпрымальнік набірае са свайго тэлефона нумар мэра, каб мы пераканаліся, што ўсё сказанае – праўда. Карыстаемся гэтай магчымасцю, каб спытаць не толькі пра грамадскі туалет, але і пра бачанне мэрам турыстычнага Высокага.

### МОЖАЦЦА, ДЫ НЕ ХОЧАЦЦА

Мэр Леанід Бірук адразу прыводзіць на карысць грамадскага туалета непарушны, па яго меркаванні, аргумент: "Туалет быў на тым месцы раней, чым гасцініца". Адразу становіцца ясна, што горад не гатовы да прыняцця турыстаў больш маральна, чым матэрыяльна. І далей ужо не пераконваюць адгаворкі, што ў выканкаме Высокага няма спецыялістаў, якія б займаліся развіццём турызму. Хаця гэта тлумачыць, чаму турысты тут выключна "імпартныя" арганізаваныя на экскурсію з Камянца або Брэста. Сам горад не атрымлівае са сваёй гістарычнай спадчыны ні заробку, ні, як следства, задавальнення. Адзін галаўны боль. Адсюль адпаведныя адносіны.

Ведаючы, што ў аблвыканкаме ў свой час распрацоўвалася цэлая праграма развіцця горада як турыстычнага цэнтра, але не была прынятая, звяртаемся туды, ці ёсць нешта падобнае зараз. Адказ атрымліваем адмоўны: "Камянецкім райвыканкамам зацверджана праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця Камянецкага раёна на 2011-2016гг., а праграма развіцця г.Высокае асобна не распрацоўвалася". Але ёсць і добрыя навіны. Аказваецца, палацава-паркавы ансамбль Сапегаў-Патоцкіх будзе аднаўляцца ў межах трансгранічнага супрацоўніцтва, ужо выраблена і прайшла праектна-каштарысную праверку дакументацыя на рэстаўрацыю ансамбля. А вось нечаканая інфармацыя: "Разам з тым, палацава-паркавы ансамбль прайшоў ацэнку і выстаўлены на продаж з аўкцыёну". Бадай, за лёсам помніка будзе цікава назіраць і далей.

Увогуле чыноўнікі не аспрэчваюць, што Высокае ўяўляе пэўную цікавасць для турыстаў. Але на гэтым усё і заканчваецца. Навошта лішні клопат, калі ў нас ужо ёсць аквапарк, страусіная ферма ды рэзідэнцыя беларускага Дзеда Мароза, куды масава возяць дзяцей на выходных і канікулах?

Таму не варта чакаць, пакуль мясціны, падобныя Высокаму, пачнуць рэкламаваць службоўцы. Развіваць мясцовы турызм павінны шэрагавыя беларусы. Ад кожнага не так і шмат патрабуецца – пачаць ездзіць па сваёй краіне і вазіць па ёй гасцей. Ёсць непарушны закон рынка: попыт нараджае прапанову. Не зможа турыстаў абслугаваць дзяржава, то гэта – афіцыйна ці падпольна – з задавальненнем зробяць прыватныя асобы.

**Паводле: «Брестский курьер»**

## ЭКОЛОГИЯ И БРЕСТ. СЛОВОМ И ДЕЛОМ

**В субботу 17 ноября в Бресте эксперты Народной программы при поддержке АРР «Дзедзич» провели экологический семинар по проблемам нашего города и страны.**



Качество воздуха, воды, вырубка деревьев в городе, строительство вредных производств, первой атомной электростанции… Всё это затрагивает каждого из нас. Сюда можно приплюсовать нежелание властей делать минимальные шаги для улучшения экологической ситуации: расширять «зелёные» зоны в городах, строить велосипедные дорожки. Именно этим проблемам и был посвящён семинрар по экологии.

Кроме обсуждения местных проблем большое внимае было уделено также такой интересной теме, как развитие агротуризма, вопросам энергетики.

Выступающие обращались к опыту нашей страны и региона, а также к путям решения экологических проблем, принятых в Европе.

**dzedzich.org**

## УВАГА! КОНКУРС!

## «ПАЛЯВЫ СЕЗОН 2012»

**Брэсцкае абласное аддзяленне «Ахова птушак Бацькашчыны» абвяшчае фотаконкурс «Палявы сезон 2012».**

Для ўдзелу ў ім прымаюцца здымкі, зробленыя на працягу бягучага года на тэрыторыі Беларусі з Брэсцкай вобласці.

**Конкурс праводзіцца па наступных намінацыях:**

- Птушкі (не прымаюцца здымкі птушак і птушанят на гнёздах);
- Людзі ў прыродным наваколлі;
- Ландшафты і краявіды.

Адзін ўдзельнік прадстаўляе да 5 здымкаў ў кожнай намінацыі і сам вызначае намінацыю, апрача гэтага ён жа дае назвы сваім працам.

Працы з абавязковымі графамі: імя, прозвішча, намінацыя, назва (могуць быць пазначаны на суправаджальным лісце) напраўляюцца ў электронным выглядзе на адрас kitel_apb@tut.by да 1 снежня бягучага года.

Конкурс праводзіцца ў два этапы. На першым этапе, сярод пададзеных фотаздымкаў адбіраюцца 30 лепшых (вызначае незалежнае журы ў складзе не менш 4-х чалавек), якія будуць прадстаўлены на выставе, што адбудзецца падчас канферэнцыі аддзялення.

На другім этапе пераможцаў вызначаюць удзельнікі канферэнцыі аддзялення. Падліковая камісія вызначае пераможцаў ў кожнай намінацыі асобна і аб'яўляе вынікі, згодна з рэгламентам канферэнцыі.

Пераможцы ў кожнай з намінацый аўтары, працы якіх па суме галасоў набралі большасць, атрымліваюць дыпломы і каштоўныя прызы.

**ptushki.org**

# БОЛОТНЫЙ ЭКО-АРТ

**«ECOART позволяет вырваться за рамки «искусства ради искусства» и принять участие в реальных проблемах мира. Задав эстетические формы, используя метафоры, поэзию, символы, образы и повествования, художники помогают сделать проблему и идею более заметной и перенести её в круг простого человека...» ECOARTIST Рут Валлен.**

**ECOART – ИСКУССТВО С ПРИКЛАДНЫМ СМЫСЛОМ.**

Это история о художественном подходе в искусстве, который используют художники, неравнодушные к местным и глобальным экологическим проблемам земли в попытках найти решение через продукты визуальной культуры.

Основной концепцией здесь является совершенствование отношений человека к миру природы через визуальное восприятие и продукты искусства. Такой культурный продукт можно использовать для образования в экологических вопросах, их популяризации, в переговорах и действиях.

Прибегнуть к такой практике у нас будет особо эффективно, т.к. на каждом шагу можно застать жалобу общественности о том, что проблемные вопросы, которые они поднимают и пытаются решать во благо общества, никого не интересуют и остаются незамеченными. Темы широко освещаются в СМИ и через пару недель становятся неактуальными. Общественность в свою очередь пытается своим малым количеством рабочих рук решать возникшую проблему самостоятельно, привлекая экспертов и разыскивая ресурсы. В итоге проблема остается.

Когда смотришь на все со стороны простого жителя – видишь следующую картину: существуют многочисленные статьи о проблемах, возникших в обществе, но они остаются незамеченными, потому что городские жители после долгого рабочего дня и решения личных вопросов уже не способны воспринимать длинные тексты с цифрами и фактами.

Именно такая история и происходила с нашим «болотным вопросом» – общество просто было не в курсе происходящих событий, а ведь только общество способно оказывать влияние на принятие решений.

Мы с друзьями впервые услышали о проблеме болот на тренингах Школы экологического активиста «Зелёной сети». Проблема затронула до глубины души, было неясно, как принимаются подобные государственные проекты. Я, Аля, Спирт, Сега, наш юрист, Катя, Дима, Сашка, Лена, Костя, Егор, Базыль, – все мы не были экспертами в области экологии, мы просто представляли, что будет с болотами, когда они вместе с заказниками утратят свой охранный статус.

В момент осознания проблемы и пришло решение объединиться. Первое, что решили совершить – предпринять поездки на болота и сделать то, что обычно делает человек, столкнувшись с любым новым для себя явлением – озвучить проблему, дать ей имя. Так и появился наш блог, наше имя Bezbolot.net. Целью стало широкое освещение проблемы и усиление экологического сознания через визуальную культуру. Ведь яркие картинки и образы всегда остаются в наших сердцах надолго.

ECOART касается искусства как процесса принятия человеческой деятельности, которая требует новых принципов и приглашает художников функционально и концептуально изменить себя, пересмотреть свои произведения и, следовательно, пересмотреть свой выбор средств и техник. Его общая цель заключается в применении научных знаний и инноваций в художественной практике для изучения возможностей устойчивого развития и установления экологических стандартов для будущего общества.



В качестве некоторых примеров ECOART в нашей деятельности можно привести: проект «Процессы ДЭ», целью которого являлась актуализация и знакомство широкого круга общества с важными проблемами через творчество, а также знакомство зрителя с уникальным взглядом молодых художников, профессионалов и талантливых любителей на эти проблемы. Публике мы представили 2 серии работ, к которым попросили не относиться слишком серьёзно.

В этих работах мы хотели поделиться нашими эмоциональными впечатлениями от экспедиций. Просто снимки и фотокарточки не могли полностью передать той атмосферы и чувств, которые дарил нам мир болот. Решением стало внести больше цвета, красок и букв.

Мы выбрали именно такой подход, потому что не хотелось говорить пессимистично о волнующей нас теме.

1. Перформанс «Мы адмяняем канец свету» для вечеринки АМП.

Мы сделали короткое представление нашего конца света – это осушения всех 8 болот на территории заказников. Пригласили зрителей из зала стать участниками данного представления, которым предстояло на своей коже, находясь в образе стрекозы или вереска или еще какого-нибудь существа, сначала погибнуть, а потом отменить свою смерть. Таким образом, зритель с нарисованными детскими картинками жителей болот, представил публике живые композиции с символическими действиями и невольно стал участником в актуализации важной проблемы.

2. Уроки мозаики на тему болот для детей. В галерее современного искусства "Ў" в рамках детского творческого экологического фестиваля мы провели мастер-классы по цветной мозаике из природных материалов. Мы немного расширили классическое восприятие мозаики и предложили ребятам попробовать добавить природных элементов и подручных средств в создании изображения.

Сегодня мы работаем над Общественной кампанией в защиту болот. Пробуем реализовать новый визуальный проект, который мы назвали «Усынови болото!». Через некоторое время мы будем готовы представить публике социально-культурный портрет каждого места, которое мы можем потерять. Это будут живые срезы тех мест со своими жителями, их рассказами, фото и видео документами тех мест. Это поможет, в случае утраты, оставить в истории культуры то, что было уничтожено и имена тех лиц, которые совершали безрассудные уничтожающие действия.

**ecohome-ngo.by**

# БЕЛАРУСКІЯ ЦМОКІ
## АБАРАНЯЛІСЯ СТАТУТАМ ВКЛ

**Калі кампанія “Будзьма беларусамі!” пачынала шукаць айчынных цмокаў, знаўцы падказвалі, што галоўны эксперт па іх жыве ў Гомелі. Сапраўды, калі гутарыш з Андрэем Скіданам, няма сумневу, што з цмокамі ён у някепскіх стасунках. У будзённым жыцці спадар Андрэй — навуковы супрацоўнік Веткаўскага музея народнай творчасці імя Фёдара Шклярава. А ў вольны час...**

Пачынаючы з 1992 года ў Гомелі пры чынным удзеле Андрэя Скідана выходзіла самвыдатаўская газета “Аксамітны жах”, вакол якой сфармавалася Беліцкае кола даследчыкаў цмокаў. У кожным нумары газеты абавязкова было некалькі матэрыялаў пра цмокаў. Аднадумцы меркавалі, што цмок мусіць стаць брэндам Гомельшчыны — і актыўна развівалі гэтую ідэю.

— Нашае захапленне цмокамі прыйшло з літаратуры, фальклору, з мастацкай культуры, — кажа Андрэй Скідан. — Сёння мы нават не сумняемся, што Гомельшчына (і ўвогуле Беларусь) — край цмокаў! Пачыналі мы з таго, што проста даследавалі культуру Пасожжа. Але калі пачалі трапляцца выявы і згадкі пра цмокаў, вырашылі вылучыць гэтую галіну асобна...



Андрэй Скідан

Спадар Андрэй прыводзіць шматлікія прыклады з вуснай народнай творчасці — балады пра Юр’я і Ягор’я, якія даводзілася запісваць ад старых людзей. Матэрыяльныя сведчанні — гэта драўляная архітэктурная разьба. На вялікі жаль, усё гэта нішчыцца са страшэннай хуткасцю...

— Яшчэ нядаўна я бачыў у Гомелі цмачыную “карону” над акном хаты, — сумна апавядае спадар Скідан. — Днямі праходжу міма: хату абнаўлялі, рамантавалі — здзерлі, выкінулі... Ліштвы на вокнах з выявамі цмока... Усё гэта знікае — і застаецца толькі на нашых архіўных фота...

Археалагічныя выявы, кажа спадар Андрэй, рэдкія, але яны ёсць — хоць больш іх знойдзена на суседняй Чарнігаўшчыне. А летам Андрэй Скідан з калегамі быў у экспедыцыі ў Чачэрскім раёне — і цяпер упэўнена сцвярджае, што цмокі ў гэтым краі пільнуюць крыніцаў!

— Культ камянёў і культ крыніцаў у гэтым краі звязаны з цмокамі, — гаворыць спадар Скідан. — Мы бачылі некалькі камянёў, перапілаваных (фактычна недапілаваных) цмокамі. Бо ў цмокаў, вы ж ведаеце, на хвасце такі грабеньчык — ім ён гэтыя камяні і пілаваў! Мы знайшлі на могілках у адной вёсцы (не буду казаць, дзе) руднічны молат (якім у руднях выкоўвалі жалеза), перапілаваны цмокам! Сфатаграфавалі яго, зафіксавалі... Гавораць, што цмокі хапалі гэтыя молаты — і кідалі на галовы людзям у тых вёсках, дзе іх, цмокаў, не шанавалі альбо шкоду ім чынілі.

Спадар Андрэй лёгка пагаджаецца апісаць беларускага цмока.

— Калі казаць пра памер, то гэта прыкладна як “каня адзін на аднаго паставіць” — я сустракаў такое апісанне. Ён мае крылы, канечне ж. І доўгія патлы ў яго — нашмат большыя, чым у каня грыва.

Маёй заўвазе, што не такі цмок, аказваецца, і вялікі, спадар Андрэй шчыра здзіўляецца.




— А чаго яму быць вялікім у Беларусі? Гэта калі надзяляць цмока як міфічную істоту цыклапічнымі рысамі... Цмок, вядома, большы за чалавека, але не такі ўжо агромністы.

Цікаўлюся, у якіх адносінах цмокі жылі з людзьмі: ці людзі іх любілі, ці паважалі, ці баяліся?

— Па-рознаму... — задумваецца спадар Андрэй. — На гэты конт ёсць філасофскае меркаванне аднаго з апалагетаў цмоказнаўства Беліцкага кола даследчыкаў Якава Пятровіча Стывенсана. Ён казаў, што цмок — гэта люстра, праява ўсіх адмоўных якасцяў чалавека. Усё кепскае, што чалавек хоча зрабіць з наваколлем, вяртаецца да яго ў асобе цмока. А добрыя людзі проста не бачаць цмока.

Я не хачу сказаць, што я ў добрых стасунках з цмокам, але калі я праехаў па Чачэршчыне, то ўбачыў, што гэта край таямніцаў, край прыгажосці. Хоць і знявечаны Чарнобылем... Дарэчы, у Чачэрску ёсць круглая царква (а раней там былі тры круглыя царквы і адзін касцёл) — яе збудавалі, каб адпужваць цмока (бо няма вуглоў). Рускія масоны змагаліся з цмокамі, выветрывалі памяць пра іх! Нават выдралі са Статута ВКЛ некалькі аркушаў, дзе вялося пра цмока. А там быў артыкул аб абароне цмокаў! Пра пушчы і бабровыя гоні засталося, а пра цмока выдралі, а там пісалася: “А цмокаў ніхто не мае права біці альбо шкоды ім чыніці...” Казалася, што з цмокам трэба “да ладу жыць”. І гравюра, дарэчы, з выявай цмока была...

На пытанне, ці елі беларускія цмокі людзей, у Андрэя Скідана адказ адназначны.

— НЕ! НАШ ЦМОК УВОГУЛЕ НЕ КРЫВАЖЭРНЫ! ЯМУ НЕ ТРЭБА ЕСЦІ ЛЮДЗЕЙ, ЁН ТРАВАЕДНЫ. ЁН ПРОСТА СПАЛІЦЬ МОЖА АЛЬБО ЗАБІЦЬ ХВАСТОМ — ХВОСТ У ЦМОКА ДАВОЛІ МОЦНЫ, ГНУТКІ ТАКІ, І З ТАКОЙ ВЯЛІКАЙ БАМБЕШКАЙ НА КАНЦЫ...

У нас у “Аксамітным жаху” быў матэрыял “У небе над Чарацянкай”. Там цмок атакаваў самалёт сельскай авіяцыі і праводзіў паветраны бой. Так што цмок страляе агнём! А ўсё таму, што ён есць пэўны збор траваў. І як у каровы атрымліваецца з іх малако — так у цмока атрымліваецца агнамяная сумесь. І калі ён яе выплёўвае, то шчоўкае крамянымі зубамі — і выбівае іскру, ад чаго сумесь запальваецца. І чалавек можа проста згарэць у галузу!

Паступова пераходзім да маршруту беларускіх цмокаў (турыстычны праект). Спадар Андрэй кажа, што за ўсю Беларусь казаць не будзе, а засяродзіцца на роднай Гомельшчыне.

— З Гомеля кіруемся ў Добруш. У нас некалі быў нават матэрыял пра добрушскія ліштвы, дзе сустракаецца вялікая колькасць цмачынай і вужынай сімволікі. На жаль, гэта ўсё нішчыцца, застаецца ўсё меней. Ясна, што ўсё не на пустым месцы — бо ў іншых мясцінах столькі няма! Там і цяпер багата вужоў — яны поўзаюць на Узвіжанне і вясной, проста на дарозе можна пабачыць... Пад Добрушам ёсць Змееў курган — гэта таксама ад таго, што шмат вужоў (а значыць, і цмокаў) у наваколлі...

З Добруша кіруемся ў Ветку. Хоць я і супрацоўнік Веткаўскага музея і як бы карыстаюся службовым становішчам, запрашаючы вас туды, але раю зазірнуць, каб адчуць вось гэтую цмачыную прысутнасць... У драўлянай архітэктуры Веткі таксама былі некалі ліштвы з цмокамі, і не проста так... Пад Веткай ёсць мясціна Хальч. Не хачу анансаваць прысутнасць там цмокаў (хоць гэта і відавочна). Проста зазірніце, як будзеце мець час.

З Хальча выпраўляемся ў сяло Свяцілавічы на рацэ Бесядзь. Чарнобыльская катастрофа звяла амаль усе вёскі на Бесядзі... А назва Свяцілавічы — бо побач ёсць Свяцілішча (якое яшчэ завуць Чортава гара)... Нехта мяне спытае, чаго я звязваю тое Свяцілішча з цмокамі. Запярэчу: а ці ёсць падставы не звязваць? Сённяшнім хрысціянам, можа, і складана верыць ва ўсё гэта. Але нашыя продкі былі паганцамі — і цмок бараніў іх!

Адтуль можна, перакрочыўшы мяжу і нічога не парушаючы, зазірнуць ужо ў Расію, дзе аж да Бранска вы пачуеце беларускую мову. Там ёсць мясціна Сіні Калодзеж — хоць ніякага калодзежа там няма! Затое шмат валуноў, якім і цяпер пакланяюцца людзі, вераць у іх моц. Яшчэ там вялікая колькасць гаючых крыніц. Не думаю, што столькі крыніц і камянёў магло сабрацца ў адным месцы без удзелу цмока, бо дакладна вядома, што цмок шпурляў камяні ў злых людзей, якія хацелі нашкодзіць крыніцам...

Адтуль кіруемся на Чачэршчыну, дзе багата загадкавых камянёў, якія сведчаць пра цмачыную прысутнасць. Але калі вы думаеце, што недзе там стаіць пастамент цмоку, то памыляецеся... У вёсцы Будзішча ёсць перапілаваны камень, а таксама дзікая крыніца — вельмі маляўнічая, цяжка да яе дабрацца! Гэтую крыніцу таксама звязваюць з цмокам.

У Нясімкавічах цмачыны камень на могілках, непадалёк недапілаваны руднічны молат ляжыць... Усіх козыраў адкрываць не буду, каб няшчырыя людзі не нашкодзілі, але раю зазірнуць таксама ў вёскі Рудня Нясімкавіцкая, Рудня Барталамееўская, Воласавічы...

У самім Чачэрску апроч круглай царквы трэба паглядзець ратушу. Яна з такой драўлянай вежай, падобнай да галавы цмока. Але гэтая вежа якраз выкарыстоўвалася як каланча — каб назіраць, дзе цмок учыніў пажар. У Чачэрску жыў той самы змагар з цмокамі граф Чарнышоў...

Вяртаемся ў Гомель, дзе таксама ёсць цмачыныя месцы... Тут быў сакрэтны стратэгічны аб’ект — разводны мост праз Сож. Яго ўжо перарабілі на новы — і цяпер ён не разводзіцца. А раней разводзіўся, бо думалі, што цмок не здольны пераляцаць, дык каб ад яго засцерагчыся. Але гэтае месца варта паглядзець, бо яно звязанае з цмокамі. Мост вядзе ў Беліцу — адзіны гарадскі раён у Беларусі, які меў уласны герб! У Гомелі ёсць прысутнасць цмокаў і ў драўлянай, і ў мураванай архітэктуры, у іх арнаментыцы... Але пра гомельскіх цмокаў я магу расказваць доўга, таму запрашаю ўсіх прыязджаць да нас на цмачыную экскурсію!

**Паводле: budzma.org**

## ДАРЭЧЫ

- Добры дзень, я ваш сусед...
- Зверху ці знізу?
- О, вось так адразу?

***

Вельмі худую дзяўчынку ў прагнозе надвор'я на заўтра не так цікавіла тэмпература, як кірунак і хуткасць ветра.

***

У дзіцячым садку нас шляхетна троліла адна выхавальніца. Казала, хто першы засне падчас ціхай гадзіны, таму яна ў сон паставіць плёнку з новымі мульцікамі, і кожны раз, прачынаючыся, я ціха абураўся, што нейкая падла зноў заснула раней за мяне.

***

У заапарку ў вальер кракадзіла валіцца маленькая дзяўчынка. Нейкі хлопец скача за ёй і паспявае выцягнуць. Да яго падбягае журналіст з «Савецкай Беларусі»:

- Які адважны ўчынак! Вы, пэўна, міліцыянер ці БРСМавец?

— Не, я апазіцыянер.

На наступны дзень газета выходзіць з загалоўкам: «АПАЗІЦЫЯНЕР ВЫКРАЎ СНЯДАНАК У ГАЛОДНАГА КРАКАДЗІЛА!»

***

У некаторых краінах так прынята: калі здымаюць партрэты правадыра, часцяком вешаюць арыгінал.

***

- Ты нейкі бледны, што здарылася?
- Ды разумееш, жонцы ўжо тыдзень сніцца, што яна сустракаецца з Лукашэнкам.
- І што?
- Учора накрычаў на яе, сказаў, каб яна спыніла гэтыя сустрэчы.
- Ну?
- Мне сёння ўначы прысніўся палкоўнік КДБ і намякнуў, каб я не лез у гэту справу.

***

Хлопчык тры тыдні хадзіў на каратэ, сустрэўся з хуліганамі і тры тыдні не хадзіў на каратэ.

***

Глыбокай ноччу звініць тэлефон. Жонка бярэ трубку.

- Дарагая, гэта я. Іду дахаты. Я не вельмі затрымаўся?
- Не, каханы.
- А можна я прывяду 5-6 прыяцеляў?
- Так, каханы.
- Мы пасядзім, вып'ем...
- Вядома, каханы.

Мужчына раптам замалкае, а потым кажа:

- Выбачыце, я, напэўна, памыліўся нумарам.

***

— Кажуць, што добры палюбоўнік – гэта той, пасля сэксу з якім знясіленая жанчына адразу ж засынае.

— Слабакі! У мяне жанчыны засынаюць яшчэ падчас сэксу!

***

— Адгадай загадку: зялёны, і ў той жа час блакітны, — сказаў кракадзіл Гена, далікатна пагладжваючы Чабурашку па шчацэ.

***

Купляйце батарэйкі «Дзеці Пракурора»! «Дзеці Пракурора» — сядуць не хутка.

Уначы да таксіста падсаджваецца дзяўчына, называе адрас, ён яе вязе... Калі прыязджаюць, яна кажа, што ў яе грошай няма, але яна можа разлічыцца натурай.

Таксіст абураецца:

- Вось, блін, 5-ая «натура» за дзень, я вам чаго! Ну, ладна. Зараз што-небудзь прыдумаем.

Выйшаў ён з машыны, знайшоў мужыка, які пагадзіўся за N-ую суму «ўзяць» гэту натуру.

Таксіст адвёў яго да машыны, мужык залез, працэс пайшоў. Раптам таксіст бачыць - мент ідзе па вуліцы і ліхтарыкам у цёмныя куты свеціць. Таксіст спужаўся, схаваўся. Мент падыходзіць да машыны, свеціць ліхтарыкам у акно, бачыць - там мужык кралю цягне.

- Каго тр%%аеш? - пытае мент.
- Жонку, адказвае мужык.
- А-а, а то я думаў, што прастытутку.
- Я сам так думаў, пакуль ты ліхтарыкам не пасвяціў.

***

- Прывітанне, Люся, як справы?
- Горш, чым ты выглядаеш, Марыначка.

***

- У цябе ёсць тэлефон?
- Ёсць!
- Працуе?
- Не, блін, вучыцца!

***

- Ты нават не заўважыў, што я пафарбавалася!
- Ды заўважыў я!
- А Я НЕ ПАФАРБАВАЛАСЯ!

***

- Ну, добры дзень, Вова!
- Калі што, я Наталля!
- Так?! А ў майго мужа ў тэлефоне ты - Вова!

Памятаю, неяк раз у дзяцінстве, пад Новы год, я выразаў шмат прыгожых сняжынак з татавай заначкі. Таму малочныя зубы ў мяне выпалі значна раней, чым у аднагодкаў.

***

Жанчына прыходзіць да лекара і кажа:

-Доктар, калі я здымаю бюстгальтар у мяне грудзі паднімаюцца!

- Хм, дзіўна Ну, што ж, здымайце бюстгальтар, паглядзім.

Жанчына здымае бюстгальтар і ў яе сапраўды паднімаюцца грудзі.

Яна пытае:

- Доктар, які будзе ваш дыягназ?
- Так-так... Пакуль я магу сказаць толькі адно - гэта хвароба заразная!

***

Ідзе семінар. Строгі выкладчык змрочна глядзіць на аўдыторыю і кажа:

- Ну што, з каго пачнём? Мабыць, я пачну з Лены.

Тут адзін разумнік «ціхім шэптам»:

- Так, у нас амаль усе з яе пачыналі.

Семінар сарваны.

***

Два падвыпіўшых хлопцы на вуліцы ідуць за дзяўчынай:

- Дзяўчына, вы, пэўна, у салоне прыгажосці былі?

Дзяўчына, какетліва:

- Так!
- Зачынена, пэўна, было?

***

— Кутузов, а нафига ты Москву сжёг?

— Жыве Беларусь!

## ФОТАЖАРТ

Студэнты пішуць заяву ў дэканат аб навучаньні на беларускай мове

Як яны бачаць сябе



Як дэканат бачыць іх




Як сяцыва бачыць іх



Як яны сапраўды выглядаюць



Дзедзіч ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

- **Заснавальнік:** ініцыятыўная група моладзі
- **Распаўсюджваецца бясплатна**
- **Падпісана ў друк** 30.11.2012 года у 18-00
- **Папера** афсетная, фармат А4, 1,5 ул.-друк. аркуша,
- **Гарнітура** Helios
- Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі

**Галоўны рэдактар:** Дзмітрый ШЫМАНСКІ.
**Рэдакцыйная калегія:** Ю. Мікалаева, А. Кахові, П. Дайлід, У. Красько, А. Трус. **Адказны за выпуск:** Вольга ЯРАМЧУК.

- **Кантактныя тэлефоны: (029) 660-57-41, (029) 724-21-16.**
- **E-mail:** dzedzich@dzedzich.org. **Інтэрнэт:** www.dzedzich.org
- Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя
- Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
- **Наклад** 299 асобнікаў